 Кунрыць: ВЕКАВАЯ ГІСТОРЫЯ  КАШТАНЫ ЦВІТУЦЬ  ВЕРШЫ АЛЕСЯ БАРСКАГА


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (501) | ГОД X | 3 КАСТРЫЧНІКА 1965 года | ЦАНА 60 гр.




# ЛЯЎКОЎСКАЕ БАГАЦЦЕ

Паўночна-ўсходні куток Гайнаўскага павета. Вёскі Ляўкова Старое і Новае, Ахрымы, Плянта, Міхноўка, Эльяшукі, Тарнопаль. Паміж імі жывапісна ўецца рэчка Нараўка, пераліваючы свае воды ў раку Нараву. Ціха тут і спакойна. Няма бурлівых дарог, няма грукату буйных заводаў. Ёсць аднастайнае сялянскае жыццё. Ад жніва да жніва, ад вясны да вясны.

І вось нядаўна — у красавіку г.г. — звычайны спакой тутэйшых вёсак парушылі цяжкія машыны. На ўзгорку за вёскай Старое Ляўкова, дзе датэтуль толькі зайцы круглы год гулялі, **распачалася будова буйнага завода** — трэцяга на велічыні ў нашай краіне. Будзе гэта аграмадная цагельня, або як кажуць спецыялісты, прадпрыемства вырабу прамысловай керамікі. Сыравінай для вырабу цэглы і дрэнажных труб з'яўляецца тутэйшая высакаякасная гліна. Гліны гэтай ёсць у наваколлі Ляўкова так многа, што за сто год нават бульдозерамі яе не змогуць выкапаць.

Дзесяткі год жылі ў Старым Ляўкове людзі і не здагадваліся, што ў іх такое багацце! Толькі ў суседняй Нараўцы ўжо да вайны выраблялі славутую чырвоную чарапіцу, якая звінела, мабыць, як сталь.

Хто і якім чынам адкрыў ляўкоўскае багацце, дакладна не ўдалося мне ўстанавіць. Гаворыць, што было так: у 1959 годзе нейкія спецыялісты праводзілі доследы адносна рэгуліроўкі рэчкі Нараўкі. Яна тут мае глыбокае карыта і цячэ даволі шпарка. Каб затрымаць ваду на сенажацях, неабходна пабудаваць на рэчцы некалькі плацін, якія паднялі б яе люстэрка. Шукаючы адпаведнага месца для гэтых плацін спецыялісты вымушаны былі зрабіць некалькі бурэнняў верхніх слаёў грунту. Тады вось натрапілі на аграмадныя залежы высакаякаснай гліны. Ляжыць яна тут амаль на паверхні. Хопіць зняць верхні пласт перагною таўшчынёю на рыдлёўку і ўжо кругом гліна.

**Цэлы кошт пабудовы завода аблічаны на звыш 50 мільёнаў злотых.** Будуе яго Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва — папулярная беластоцкая **«прамыслоўка»**, якая пабудавала большасць заводаў на Беласточчыне. Кіраўніком ляўкоўскай будовы з'яўляецца зямляк Васіль Шкаленнік.

За тры гады ў трэцім квартале 1968 года ляўкоўскі керамічны завод мае даць ужо прадукцыю: звыш 11 мільёнаў дрэнажных труб і звыш 2-х мільёнаў спецыяльнай цэглы «кратоўкі К—2». Так прынамсі прадбачвае план, аб якім кіраўнік будовы гаворыць без вялікага энтузіязму. Ужо цяпер выявіліся некаторыя памылкі праекта, асабліва яго надбайнае прыстасаванне да мясцовых умоў. Усе будынкі, агульная плошча якіх складае амаль 8 000 квадратных метраў, будуюцца тут на глінастай аснове, а розніца ўзроўню паміж найвышэйшым і найніжэйшым пунктамі плошчы будовы сягае ад 3-х метраў. Каб зраўняць плошчу неабходна зняць

(Працяг на стар. 4)




20 і 21 верасня г.г. у Беластоку адбылося польска-савецкае навуковае сімпозіум, прысвечанае кантактам паміж славянамі і балтамі ў раннім сярэднявякоўі.

У сімпозіуме удзельнічалі вучоныя Савецкага Саюза (з Масквы, Ленінграда, Мінска, Рыгі і Смаленска) і Польшчы

## СЛАВЯНА - БАЛЦКІЯ КАНТАКТЫ НА ВАРШТАЦЕ ВУЧОНЫХ

(з Варшавы, Кракава, Лодзі, Гданьска, Торуня, Альштына і Беластока). Былі таксама па адным прадстаўніку навукі англійскай і нямецкай (ГДР).

Вучоныя прачыталі і абмеркавалі трынаццаць дакладаў, пазнаёміліся з Беластоцкім музеем і наведалі Белавежу.

Сімпозіум было арганізавана дзякуючы намаганням Беластоцкага навуковага таварыства. Гэта сведчыць аб ініцыятыўнасці гэтага таварыства, а таксама аб узрастаючай ролі яго ў навуцы.

На здымку: Прэзідыум сімпозіум. З дакладам выступае сакратар Таварыства др Ежы Антаневіч.

Фота З. Зарэмба

## Да 40-годдзя дзейнасці Грамады

Асноўнай базай дзейнасці Грамады на Беласточчыне былі вёскі сучаснага Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Не выпадкова менавіта тут, у вёсцы Старое Беразова, у студзені 1926 года планавалася адбыццё з'езда Грамады, з удзельнікамі якога так крывава расправілася дэфензіва і паліцыя.

Аднак гурткі гэтай арганізацыі існавалі і ў іншых паветах: Беластоцкім, Сакольскім, Сямяціцкім, Дубровскім. У пошуках грамадаўцаў нам давялося трапіць у Дуброўскі павет, на вёскі амаль польска - беларускага этнічнага пагранічча, і там нечакана ў вёсцы Астрове сустрэцца з Аляксандрам Жздануком. Гэты 70-гадовы мужчына ласля агульнага знаёмства хвіліну хістаўся, як распачаць сваю кароткую інфармацыю аб гуртку Грамады ў сваёй вёсцы, таму што менавіта яму давялося быць яго арганізатарам.

— Толькі я ўступіў у 1925 годзе ў КПЗБ, як адразу атрымаў заданне арганізавання гуртка Грамады і расшырэння яго легальнай дзейнасці на суседнія вёскі (тав. А. Жданук удзельнічаў у арганізаванні гурткоў у Хілімонах, Ячне і Грабенях, хоць не прыпісвае ў гэ-

(Працяг на стар. 2)




★

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары, у сувязі з саракагоддзем Грамады, у Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрылася выстаўка п. з. «Беларуская сялянска - работніцкая Грамада»

Выстаўку наведаць можна штодзённа, апрача панядзелка, ад 11 да 17 гадзін. Дзейна яна будзе да канца кастрычніка г.г. Музей змяшчаецца на вуліцы Кілінскага 6.

На здымку фрагмент выстаўкі.

Фота Ул. Паўлючук

ЗОРКА
ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 40 (401) 3 кастрычніка 1965 г.



## АСЕННІЯ ПАЖАРЫ

Дзіўныя пажары запаліла восень —
Полымем вясёлым лісце занялося.
Запалалі клёны, дуб стары шугае,
Між галля вавёрка факелам мільгае.
На паляне дымна — ды не дым віецца:
Тумановы засціл разматае вецер.
А вялізны жоўты грыб стаіць у бляску —
Быццам бег пажарнік і згубіў тут каску.

АНАСТАС СТАЯНАЎ

П. РУНЕЦ

# ПАС-ТУШ-КІ

Лёня толькі што прачнуўся, калі да яго зайшоў Міша Хадун. Ён падышоў да ложка і, сцягнуўшы з сябра коўдру, сказаў:

— Уставай, пойдзем пасвіць цялят. Па дарозе хлопцы гукнулі яшчэ Васю Кудлача.

Апоўдні пастушкі падагналі статак да лесу, расклалі агонь, спяклі скваркі і папалуднавалі. Раптам Лёня падняўся, пляснуў рукою па лбе і сказаў:

— Хлопцы, вы пабудзьце адны, а я схаджу выражу арэхавае вудзільна.

— Схадзі, толькі не бауся, — дазволіў Міша, які быў у іх нібы за старшага.

Лёня дастаў з торбачкі ножык і знік у кустах. Не прайшло і дзесяці хвілін, як ён вярнуўся бледны, узрушаны.

— Хлопцы, я знайшоў воўчае логава, — выгукнуў ён, цяжка сапучы.

Сябры паўскаквалі з зямлі.

Адагнаўшы цялят ад лесу, Міша і Вася ўзялі па ладнаму суку і рушылі за Лёнькам. Неўзабаве яны падышлі да невялікага круглага балотца. Крыху далей, на грудку, каля зарасніку арэшніку, пад тоўстым яловым вываратнем хлопчыкі ўбачылі воўчае логава, а ў ім — трох маленькіх рудых ваўчанят.

— Вось гэта знаходка! — усклікнуў Васька, размахваючы сасновым сукам. — Што мы будзем рабіць з імі?

— З ваўкамі адна размова — галавою аб пень, — рашуча сказаў Міша.

— Гэта зрабіць няцяжка, — заўважыў Лёня, але што будзе, калі наляціць ваўчыца? Яна нас паразрывае.

Хлопчыкі мімаволі азірнуліся.

— Хлопцы, паслухайце, што я надумаўся, — раптам сказаў Лёня. — Давайце пакладзём ваўчанят у кошык і павесім на дрэва.

— Правільна! — згадзіўся Міша.

— Вось паскача ваўчыца... Толькі хутчэй!..

Васька збегаў да вогнішча і прынёс кошык. Хлопчыкі паклалі ў яго ваўчанят, а каб яны не павыкідаліся, абвязалі кошык торбай. Лёня ўлез на высокую яліну і павесіў яго ля самай верхавіны.

Калі ўвечары хлопцы гналі цялят дадому, Міша папярэдзіў сяброў, каб яны нікому не расказвалі пра ваўчанят.

Дома Лёня павячэраў і лёг спаць. Спаў моцна, як забіты, і прачнуўся толькі пад раніцу, пачуўшы галасы бацькоў.

— Антон! Антон! Ды прачніся ты! Паслухай, што робіцца ў лесе, — гаварыла маці.

Бацька злез з пасцелі, падышоў да акна.

— Ваўкі выюць.

На другую ноч паўтарылася тое самае.

Па вёсцы папаўзлі розныя чуткі. Адны казалі, што ваўкі выюць на пажар, другія — што на хаўтуры. Нарэшце мужчынам надакучыла слухаць розныя плёткі і папрокі жанчын, і яны парашылі наладзіць аблаву. Сабраліся ўсе, у каго былі паляўнічыя стрэльбы, і на чале з леснікам Іванам Губічам рушылі ў лес. У час аблавы яны забілі двух старых ваўкоў і ваўчыцу. Калі звяроў прывезлі ў вёску, паглядзець на іх сышліся амаль усе аднавяскоўцы.

Міша адвёў убок сяброў і сказаў:

— Бачылі, якая ваўчыца? Каб наляцела, мала нам не было б. Але цяпер яна мёртвая, і баяцца няма чаго. Давайце сходзім і паглядзім, што з ваўчанятамі.

Калі яны падышлі да знаёмай яліны, то ўбачылі даволі дзіўны малюнак. На дрэве кара, як дастаць рукой, была абадрана воўчымі лапамі. Уся трава навокал была перамешана з зямлёй.

Лёня спрытна ўзабраўся на яліну, зняў кошык і хутка спусціўся ўніз. Калі ён адвязаў торбу, ваўчаняты заварушыліся і пачалі вішчаць. Бач, якія жывучыя! Але не паспелі хлопцы як след разгледзець іх, як ззаду пачуліся крокі. Сябры спалохана азірнуліся. Да іх падыходзіў ляснік Іван Губіч.

— Так, так. Значыць гэта ваша работа, — нараспеў гаварыць ён, паказваючы на кошык. — Калі гаварыць праўду, я адразу здагадаўся, што гэта справа дзяцей. Дарослыя так рабіць не будуць. Але хто гэта зрабіў, я не ведаў і рашыў падпільнаваць. Калі-небудзь, думаю, хлопцы прыйдуць паглядзець, што сталася з ваўчанятамі. Так яно і выйшла. Дык вось што, даражэнькія, бярыце свае трафеі і пойдзем у грамадскую раду.

Апусціўшы галовы, хлопцы папляліся за леснікам.

Толькі яны выйшлі з лесу, як убачылі, што насустрач ім коціць на веласіпедзе сам старшыня. Ён пад'ехаў.

— Дык яны ж малайцы! Добрую справу зрабілі...

Хлопцы аж раты паразяўлялі ад здзіўлення.

— Што ж тут добрага? — нясмела спытаў Міша.

— Як што? Вы ж, можна сказаць, шэсць ваўкоў знішчылі. Шэсць лютых драпежнікаў.

Хлопцы ледзь не заскакалі ад радасці. Ды яно і не дзіва! Як тут было не скакаць, калі справа павярнулася так шчаслівa.






## А★Д★Г★А★Д★А★Н★К★А

Тут намалявана шмат прадметаў, назвы якіх пачынаюцца з літары «В». Колькі такіх слоў?

### КОЛЬКІ ГОД УНУКУ?

Хлопчык спытаў бабулю:
— Колькі год вашаму ўнуку?
Бабуля адказала:
— Яму столькі месяцаў, колькі мне год.
— А колькі вам год?
— Нам з унукам разам 65 год.
А колькі год унуку, вылічы сам.

### МЕТАГРАМА

Днём і ноччу я бягу
Праз лугі, лясы, паляны,
А заменіш «А» на «У» —
Часткай цела твайго стану.

## ВЫПАДАК У ЗААПАРКУ

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka" BZGraf. — C-3

# Усё праз Джона

Я прыйшоў са школы і нерашуча падаў тату запіску.

— Нарабіў ужо што-небудзь? — захваляваўся ён.

— Я... нічога...

— Нічога? З-за нічога не выклікаюць у школу. Прыйдзецца за цябе ўзяцца.

Я прылёг на канапу, але не спалася. Усё дакучала думка: навошта я прыдумаў пра Джона Брауна!

А было гэта так. Я прыйшоў у школу, калі да званка заставалася яшчэ мінут пятнаццаць. Мой сусед па парце ўжо быў у класе. Паклаў я кнігі, спытаў:



— Чуў пра Джона Брауна?

— Не. А хто гэта?

— Сілач! Не верыш? Эх ты. Я ўчора чытаў пра яго ў газеце. Ну, прачытаў і сам рашыў заняцца трэніроўкай, каб быць моцным. Лёг на падлогу і кажу сястры Лідзе: «Станавіся на жывот». Яна спачатку адмаўлялася, а потым стала. І я ўтрымаў яе. Во!

— Ні за што не паверу, — рашуча матнуў галавой Жора.

— Гэта ты б не ўтрымаў. А я ўтрымаў.

— Хочаш, я стану каля сценкі, а ты разбяжышся і галавой стукнеш мне ў жывот. І пабачыш: нават не пахіснуся.

— А можа лепш нагой? — нясмела запытаў Жора.

— Нагой? Не, галавой.

Я стаў ля сценкі, а Жора адышоўся крокаў на пяць і спытаў:

— Хопіць?

— Як хочаш, — абыякава адказаў я.

Жора крыху прыгнуўся, узяў разгон і... Я не вытрымаў і ад страху маланкай сігануў убок, а Жора ўрэзаўся галавой у сцяну.

У гэты час у клас увайшоў дырэктар школы. І вось вынік: выклікаюць тату. І ўсё праз Джона.

**ВАЛОДЗЯ СТРУМІЛА**

## Аўтамат

Мікола Верхагляд
Ад радасці аж скача:
Пачуў, што аўтамат
Рашае сам задачы.

Нядоўга быў ён рад,
Засумаваў глыбока:
«Чаму няма прылад
Каб рыхтавалі ўрокі?»

**СЯМЁН ПАЦЁМКІН**



# Паляўнічая байка

**Народны жарт**

Жыў-быў храбры паляўнічы Аніська. І было ў яго тры сыны, таксама паляўнічыя. І было ў яго чатыры сабакі, таксама паляўнічыя.

Дачуўся аднаго разу храбры паляўнічы Аніська, што ў суседнім лесе шмат рознага звяр'я. Сабраўся ён з сынамі, па торбе з харчамі ўзялі, сабак паклікалі ды пайшлі ў той лес.

Пакуль прыйшлі — сцямнела. Расклалі агонь, пачалі вячэру гатаваць. Згатавалі, селі, ядуць. Прыходзіць сівенькі дзядок.

— Добры вечар, стральцы-малайцы! Хлеб - соль вам!

— Дзякуем, дзядуля! Садзіся з намі вячэраць!

Сеў дзядок і як бачыш усю вячэру з'еў.

— Ці няма ў вас яшчэ чаго? — пытаецца. — Вельмі ж я галодны.

— Аддай, бацька, дзяду сваю торбу, — кажуць сыны.

З'еў дзядок бацькаву торбу, яшчэ просіць.

— Цяпер ты аддавай, — кажуць да старэйшага сына.

З'еў дзядок торбу старэйшага сына — мала. З'еў торбы сярэдняга і малодшага — таксама не наеўся.

— Бацька, — кажуць сыны, — аддай яму сабаку!

З'еў дзядок і сабаку — мала!

— Давайце другога — а то вас саміх паем! — ужо не просіць дзядок, а грозіць.

Аддалі другога, і трэцяга, і чацвёртага: не наеўся дзядок!

Прыйшла чарга да сыноў.

З'еў дзядок і сыноў.

Дайшла чарга да бацькі.

Тут едзе чалавек па дарозе. Храбры паляўнічы Аніська ўхапіўся за колы ды як крыкне:

— Ратуй мяне, чалавеча!

А жонка яму кулаком пад бок:

— Чаго крычыш на ўсю хату?!

Прачнуўся храбры паляўнічы Аніська, бачыць — ляжыць ён на ложку ў сваёй хаце, сыны на палацях храпуць, а сабакі пад сталом спяць. І нідзе ніякага дзядка не відаць.

## Пазнаёмімся

Дарагая «Зорачка»!

Пазнаём нас з сябрамі і сяброўкамі з іншых вёсак. Мы ў гэтым годзе скончылі пачатковую школу. Любім спяваць песні. На кожнае пісьмо адпішам. **Вера і Зіна Тэрэбун, вёска Стоўбцы, пошта Клюковічы, пав. Сямяцічы.**



# Палюбляй свае веды

### ПАВУК - ПТУШКАЕД

На поўдні Індакітайскага паўвострава, у краінах Паўднёвай Амерыкі і на востраве Ява жывуць павукі-птушкаеды. Гэта самыя буйныя павукі, дасягаючыя даўжыні 10—12 см. Цела іх пакрыта цвёрдымі доўгімі валасамі. Яны маюць па 6—8 вачэй. Птушкаеды — начная жывёла. Удзень яны спяць, забіўшыся ўглыб сваіх сетак, а з надыходам змроку выходзяць на паляванне. У павуціннне птушкаедаў трапляюць не толькі насякомыя, але і дробныя птушкі, яшчаркі і жабы. Павуціннне ў некаторых птушкаедаў такое моцнае, што вытрымлівае груз да 300 грамаў.

Цікава, што робячы павуціннне, птушкаед абавязкова адводзіць ад яе берага «сігнальную нітку», прычапляючы яе да адной са сваіх лапак. Калі здабыча садзіцца на павуціннне, нітка нацягваецца і цягне павука за лапку, паведамляючы яго, што «абед гатовы».

Для чалавека ўкус птушкаеда балючы, але не небяспечны.

### СМЕХ У ЗЯРНЯТАХ

Ці можа смех расці на галінках? На Бліжнім Усходзе растуць расліны, якія завуцца «кветкамі смеху». Плады кветак — чорныя зярняткі велічынёй з гарошыну — выклікаюць у чалавека даволі падоўжаны прыпадак весялосці ад 30 да 50 хвілін.

Мясцовыя жыхары ўжываюць гэтыя зярняты для супакойвання зубнога болю.

## ЗА ШТО ДВОЙКА

— За што двойка?
— Ды за казкі...
— Што? Не ўмеў чытаць?
— Не, я добра прачытаў,
Магу расказаць...
— За што ж двойка?
— Ды за казкі...
— Ну, з табой адна марока!..
— Браце, калі я чытаў
Не на тым уроку.

**ГРЫЦКО БОЙКА**



# Для самых маленькіх

## Жэўжык

**Скача на пальцы сцяжынкай дахаты —**
**качкі набок.**
**Хітрыя чорныя вачаняты,**
**белы чубок.**

**Вузай чмялінай прапах, непаседа,**
**сіняй расой.**
**Помніць прыгоды дзеда Міхеда,**
**п'е сырадой.**

**Бабка, вылазь са сляпога запечка,**
**глянь, на вушак:**
**змералі ўнука — зверху засечка,**
**сённяшні знак.**

**Бабка змахнула слязу ля парога —**
**кроплю турбот:**
**— Толькі на два сантыметры нябога**
**вырас за год...**

**Смешная, добрая, любая ласка,**
**хатні дазор.**
**Ведаю: вырасце — гэта не казка —**
**хлопчык да зор.**

**АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН**

## Пра Гаўрылу і чарніла

— Што рабіць? — спытаў
Гаўрыла, —
Я глынуў крыху чарніла...
— Праглыні і прамакатку
І — канец турботам, братка!..

